- **ПРЫКЛАД ПОЛЬСКАЙ ПРЭСЫ:** партыйная, «жоўтая», вольная. З замежных уражаньняў.
- **ЕШЦЕ КЫВІ І БАНАНЫ...** Горадня пасьлячарнобыльская.
- **МІНІСТЭРСТВА АБАРОНЫ НА БЕРАЗЕ СЬВІСЛАЧЫ.** З падарожных запісаў.
- **СУДОЎНІЦТВА: АД ВКЛ ДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.** Гутарка зь юрыстам.
- **ВЯЛІКІ КНЯЗЬ КАЗІМІР.** 500 гадоў таму ў Горадні памёр дзяржаўны дзеяч, які бараніў у Кракаве Літву.




*Жыве Беларусь!*

# ПАГОНЯ

*Грамадзка-палітычная газэта*

*№ 4, пятніца, 5 чэрвеня 1990 г.* *Кошт 1 руб.*


## СЬЦІСЛЫМ РАДКОМ

У Лідзе адбылася нарада рэдактараў раённых газэт вобласьці. Грошаў на іх выданьне няма, але выдаваць раёнкі ўсё адно вырашылі, бо ні адзін з райсаветаў не жадае пазбыцца ўласнай «трыбуны».

***

Хутка беларуская міліцыя зьменіць форму савецкага міліцыянта на сваю ўласную. Выконваць замову бяруцца магілёўскія швачкі.





1 чэрвеня ў вабласной управе КДБ адбылася прэс-канфэрэнцыя. Яе ўдзельнікам прадставілі для агляду кантрабандныя рэчы, сканфіскаваныя пры спробе перавозу праз беларускую мяжу. Гэта вынік сумеснай працы супрацоўнікаў КДБ, мытні і памежнай службы. Колькасьць кантрабанды павялічваецца. На захад пераважна імкнуцца вывезьці творы мастацтва, на усход — газавыя пісталеты й балёнікі да іх. Дарэчы адзін балёнік у Гародні каштуе 300 рублёў, а ў Расеі — утрая даражэй.

Мясцовая ўправа КДБ мае добрыя кантакты з расейскімі калегамі. З палякамі й лятувісамі гэтага пакуль няма.

На прэс-канфэрэнцыі выказваліся пажаданьні, каб сканфіскаваныя на мяжы рэчы, а перадусім мастацкія творы, заставаліся на Беларусі.

**На здымках: сканфіскаваныя творы мастацтва: газавыя пісталеты з балёнікамі.**

**Фота У. ВЫДЭРКІ.**

# У ХЭЛЬСІНКАХ ВЫРАШЫЛІ МЕЖЫ НЕ ДЗЯЛІЦЬ...

## Непарушнасьць беларускіх межаў вачыма тэлегледача

Як вядома, у свой час на агульнаэўрапэйскай нарадзе ў фінскай сталіцы кіраўнікі дзяржаваў пагадзіліся лічыць пасьляваенныя межы ў Эўропе непарушальнымі. Таму, напрыклад, Нямеччына па злучэньні Заходняй ды Ўсходняй яе частак у адзіную ня стала прадстаўляць сваіх прэтэнзій суседняй Польшчы, чаго польскія палітыкі вельмі й вельмі баяліся. Такім чынам, беспадстаўна меркаваць, што нейкі край, дапушчальна ва Ўсходняе Эўропе, паспрабуе адабраць у іншага частку нейкай спрэчнай тэрыторыі. Аднак некаторыя агульныя межы ўсё ж руйнуюцца. Няма болей мяжы СССР, няма таксама Югаслаўскай, можа зьмяніцца й мяжа Расеі. Карацей кажучы, распадаюцца фэдэратыўныя дзяржаўныя утварэньні.

Паступова адбываецца размежаваньне й унутры некаторых вялікіх краёў. Існуе тэндэнцыя да падзелу Расеі на некалькі рэспублік: Уральскую, Сібірскую, Далёка-Усходнюю і г. д. Магчымы ў будучыні падзел Украіны: Крым, Новарасея (Адэская, Мікалаеўская ды Хэрсонская вобласьці), Данбас (Данецка-Крывароская рэспубліка), Галічына, нарэшце Харкаўшчына. Адна дзяржава можа наогул зьнікнуць з зямлярысу Эўропы: Малдова выказвае імкненьне зноў ператварыцца ў гістарычную вобласць Румыніі.

Есьць яшчэ адзін прыклад спробаў перадзелу мяжы. Маю на ўвазе г. зв. Прыднястроўскую рэспубліку. Прыднястроўцы давялі да скрайнасці ідэю аўтаноміі, якой апантаныя палякі Віленшчыны. Супраць створанага імі выдатна ўзброенага войска малдаўская паліцыя, вядома, ня можа даць сабе рады. Мы бачым, што сёньня аўтанамічная ідэя можа быць вельмі небяспечнай. Гэта яскрава пацьвярджаюць й сэпаратысцкія дзеяньні сэрбскай меншасьці ў Харватыі ды Босьніі і Гэрцагавіне.

А на Беларусі ўсё пакуль ціха. Пакуль. Нейкі, праўда, амбітны журналіст, дбайна вывучыўшы «Тураўскі слоўнік», абвясьціў палескі дыялект асобнай мовай і бачыць сябе ўжо на чале паляшуцкай дзяржавы. У Віцебскай ды Гомельскай прэсе ўсё часьцей адлюстроўваюцца прарасейскія настроі... Але вернемся зноў на Віленшчыну. Яшчэ нядаўна сэпаратызм віленскіх палякаў дружна падтрымлівалі маскоўскія бальшавікі, якія атрымалі лішні козыр у сваім марным змаганьні зь незалежнымі памкненьнямі Лятувы. Крамлёўскія эмісары намалявалі нават сваім віленскім сябром плян утварэньня польскай савецкай сацыялістычнай рэспублікі ад Вільні да Львова...

Вядомы астралёг Глёба, выступаючы аднойчы ў Гародні, прадказаў нібыта на бліжэйшы час магчымасьць нейкіх замяшаньняў на груньце далучэньня заходняй Беларусі да Польшчы. Перад выступленьнем ён, напэўна, зазірнуў у падручнік па гісторыі, але нявывучыў пытаньне дастаткова глыбока. Ва ўсякім разе на сёньняшні дзень няма падрыхтаванай сацыяльнай базы для падобных дзеяў. Але хто ведае, што будзе заўтра? Сёньня раённыя ўлады паслухмяныя вабласным, а тыя — вярхоўнай уладзе. Аднак паводле праэкта новай канстытуцыі на Беларусі ня будзе ваблaсьцей, а толькі раёны. Хто з пэўнасьцю, аспрэчыць магчымасьць таго, што ў будучыні некалькі раёнаў ня ўзьнімуць пытаньня аб аўтаноміі або нават аб далучэньні да суседняе дзяржавы?

Гарантам ад гэтага можа быць толькі ажыцьцяўленьне паўсюдна беларускае дзяржаўнае палітыкі. Пакуль жа ў Вярхоўным Савеце і на мейсцах кіруюць па-старому былыя бальшавікі. Беларуская нацыянальная ідэя ад самага пачатку выклікала ў іх лютую нянавісьць. Сёньня яны ўрадуюць пад Бел-чырвона-белым сьцягам, які ганілі асабліва злобна ў апошнія гады, нават забаранілі аго адмысловым дэкрэтам, як некалі расейскі цар забараніў слова «беларус». Будзьце ўпэўнены: яны здрадзяць беларушчыну зноў пры першым прыдатным выпадку. Пакуль экс-бальшавікі пры ўладзе, непарушальнасьць беларускіх межаў ня можа быць справай пэўнай. Бо чым яны трывалейшыя за ўкраінскія або малдаўскія? Нічым.

Хэльсінскага пагадненьня беларусы не падпісвалі. Іх папросту не запрасілі да Хэльсінкаў, як калісьці не запрасілі на абмеркаваньне Рыскага трактату. Аўтара подпісу пад хэльсінскім пагадненьнем з нашага агульнага боку даўно няма сярод жывых, няма й ягонай савецкай дзяржавы... Можа я й перабольшваю магчымую небясьпеку. Вядома, латва глядзець па тэлебачаньні на страляніну дзе-небудзь у Малдове або Босьніі ды ўсьведамляць, што нам гэта не пагражае. І я перакананы, што сапраўды не пагражае. Даволі трохі ведаць мэнтальнасьць беларуса. Усё гэта так. Але ж сэпаратызм бывае ўсякі, а беларус бывае паслухмяным усякаму прыхадню, усякаму чужынцу... Непарушнасьць края, для якога нацыянальная дзяржаўная ідэя знаходзіцца на апошнім мейсцы, можа быць усяго толькі вонкавай. Хацелася б, каб я памыляўся.

**М. КАПШУК.**

# ПРЫКЛАД ПОЛЬСКАЙ ПРЭСЫ

**... Варшава сустрэла цёплым травеньскім ветрам, беганінай эсэнгоўскіх «турыстаў» з валізкамі і двума паліцыянтамі, якія прафэсійна-усьмешліва прапанавалі нам аплаціць штраф за тое, што наша сяброўка кінула недакураную цыгарэту на пэрон.**

**Мы, сямёра беларускіх журналістаў, трапілі ў Варшаву на сэмінар, арганізаваны Міжнародным фондам разьвіцьця дэмакратыі ва Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропе. Удзел бралі таксама калегі з Украіны ды Летувы. Нас чакалі спатканьні з дырэктарам прэсбюро польскага ўраду З. Рыкоўскім, намесьнікам галоўнага рэдактара найпапулярнай у Польшчы «Газэты Выборчай» Э. Скальскім, галоўным рэдактарам «Рэчы Паспалітай» Д. Фікусам, дырэктарам варшаўскага бюро амэрыканскага часопіса «Ньюсуік» А. Нагорскім, амаль земляком, бо ягоная маці нарадзілася на Меншчыне.**

Польская прэса ёсьць узорам таго, што неўзабаве чакае нас. Вызначыліся колькі тыпаў газэт, якія працягваюць барацьбу за існаваньне і за чытачоў. Партыйныя газэты дагэтуль не зьяўляюцца ў палякаў анахранізмам. Праўда, тыражы іхнія падупалі. Штотыднёвік «Салідарнасьць» замест даўнейшых паўмільёну паасобнікаў мае ўсяго 15—20-тысячны тыраж. Людзі нарэшце стаміліся ад палітыкі, лёзунгаў і заклікаў, яны папросту прыняліся зарабляць грошы, наведваць тэатры, есьці бананы, не спакусіцца на якія ў Польшчы амаль немагчыма, бо іх поўна літаральна на кожным кроку.

Колькі гадоў таму ў суседзяў паявіліся незалежныя выданьні, галоўнае крэда якіх — інфармацыйнасьць. Дзякуючы рэклямнай ды іншай фінансавай дзейнасьці яны дасягнулі магчымасьці мець уласную канцэпцыю, сваё аблічча, пазбыліся любой іншай цэнзуры, апроч прафэсійнай. «Газэту Выборчу», напрыклад, утрымоўвае прыватная кампанія, у складзе якой 25 чалавек, большасьць якіх — супрацоўнікі самой рэдакцыі.

Наступны тып газэт — тыя, у якія ўкладзены заходнія, пераважна францускія, капіталы. 49 працэнтаў акцый «Рэчы Паспалітай» мае францускі канцэрн «Кэрсон». Заходнія укладальнікі ня цікавяцца ўнутранымі справамі рэдакцыі, іх турбуе выключна прыбытак.

Аднымі з самых жыцьцястойкіх выданьняў аказаліся тыя, якія называюць жоўтай прэсай. Газэта «Не», штотыднёвік «Скандаль» друкуюць спрэчныя, «смажаныя» факты, арыентуючыся не на культурную эліту, а на сярэдняга паляка. Папулярнасьць робіцца ўсялякім чынам. Рэдактар «Не» Е. Урбан нібыта выкупіў аўтарскія правы на дзяржаўны гімн Польшчы й спрабуе дамагчыся, каб кожны раз за яго выкананьне ў межах краіны яму як уладальніку плацілі грошы. Дзякуючы скандальным выпадкам гэтыя выданьні маюць вялікую папулярнасьць і прыбыткі, ахвяруючы дзеля гэтага сваёй рэпутацыяй у прафэсійных журналісцкіх колах.

Як і паўсюль у сьвеце, у палякаў таксама карыстаюцца посьпехам адмысловыя выданьні для жанчын, бізнэсмэнаў або для моладзі, якую цікавіць музыка, сэкс, каханьне і хоббі. Існуе таксама своеасаблівая прэса на мурах, у падземных пераходах і мэтро. Маладзёжны андэграунд не шкадуе фантазіі, фарбаў, а разам і сваіх гэрояў: палітыкаў, музыкаў і г. д.

Як ні дзіўна, у палякаў сёньня яшчэ існуе праблема незалежнасьці прэсы. Мары аб тым, што пасьля падзеньня камуністычнага ўраду сродкі інфармацыі атрымаюць поўную волю, ня спраўдзіліся. Па-першае, камуністычная ідэялёгія зьмянілася антыкамуністычным сындромам. Камуністы ўжо ня кіруюць, але прэса трапіла ў іншую залежнасьць — эканамічную. Першымі асобамі зрабіліся фундатары і рэклямадаўцы. У нечым такое становішча лепшае за мінулы ідэялягічны дыктат, але праблема ўсё адно існуе. Каля 70 працэнтаў усіх грошай, якія зарабляюць салідныя газэты,— прыбыткі ад рэклямы. І чытачам, вядома, ня дужа падабаецца атрымліваць газэту, у якой ледзьве не палова плошчы занята абвесткамі. Але такая рэальнасьць.

На Беларусі рэкляма — амаль не крануты аблог. Няма адпаведнага рынку, няма рэклямных спэцыялістаў. У гэтым адно з тлумачэньняў таго, чаму няўтульна нашым газэтам, калі бульварная прэса ажно квітнее. Але супольнасьць прэсы і рэклямы — агульная прыкмета для ўсіх вольных краёў.

Польскія калегі зьвярнулі нашу ўвагу яшчэ на адну акалічнасьць. Вольная прэса — гэта ня толькі незалежныя газэты і журналісты, якія не баяцца выказваць свае думкі, але таксама і чытачы, для каторых такія выданьні былі б зразумелымі і чаканымі. «Трэба выхоўваць сабе такога чытача»,— параіў нам галоўны рэдактар тыднёвіка «Спатканьне» М. Ілавецкі.

Калі нейкі народ пасьля крызысу вымыкаецца нарэшце на абсягі больш — менш прыстойнага жыцьця, дык амаль напэўна можна сьцвердзіць, што ім кіравала моцная прывабная ідэя, якая ім дапамагла змагчы цяжкасьці. Для палякаў гэтай сілай стала каталіцтва. Рымскі Папа Ян Павел II мае сярод землякоў вялікі аўтарытэт. У самой Польшчы касьцёл і прэса стала й плённа супрацоўнічаюць. Адзін з чатырох польскіх прафсаюзаў працаўнікоў прэсы — Саюз каталіцкіх журналістаў. Словы Папы аб тым, што трэба імкнуцца да таго, каб «у сваіх тэкстах дабро называць дабром, а зло — злом» зрабіліся своеасаблівым крэдам тых, каго на Захадзе з павагай завуць чацьвертай уладай.

Нямала уразіла нас і арганізацыя працы польскіх журналістаў. Рэдакцыі працуюць практычна поўныя содні. Можна пазайздросьціць іх тэхнічнаму абсталяваньню, сучаснаму дызайну памяшканьняў. Кожны супрацоўнік мае свой камп´ютэр, кожны аддзел — свой банк інфармацыі. Бесперапынна паступаюць навіны ад інфармацыйных агэнстваў амаль з усяго сьвету.

Маленькі, але яскравы факт. У рэдакцыі «Газэты Выборчай» ёсьць тры тэрмасы: у адным моцная кава, у другім проста кава, у трэцім гарбата, у вапошнім — напой зь зёлак. Кожны журналіст абірае свой «допінг» й можа выпіць яго колькі захоча, абы мог плённа папрацаваць на сваім рэдакцыйным мейсцы. Як бачым, у Польшчы разумеюць, што чалавек ня толькі прадае сваю працоўную сілу, ён прадае здароўе.

Паводле статыстыкі, сярэдні век, у якім паміраюць журналісты ў Польшчы,— 53 гады... Можна зайздросьціць польскім журналістам, захапляцца умовамі іх працы. Але варта лепш зразумець, што і на Беларусі надышоў час дыхаць вольна, вольна думаць і выказвацца.

**Сяргей ЛАЎНІК.**

## ПОШТА

# ШАСЬЦІКАНЦОВЫ ПАКУТНЫ КРЫЖ

Восьмага мая адбылася значная падзея ў жыцьці пецярбургскай грамады беларусаў. Беларускае грамадзка-культурнае таварыства разам зь летувіскім і пры ўдзеле пецярбургскай арганізацыі «Мэмарыялу» узьвялі на Левашоўскай пустэлі помнік забітым тут пад час сталінскіх рэпрэсій жыхарам Беларусі і Летувы.

У сасновым лесе, што вырас над магіламі, побач з тым мейсцам, дзе пачынаюцца ямы з забітымі, адбылася жалобная цырымонія, якую распачаў рэзыдэнт БГКТ В. П. Грыцкевіч. Каталіцкім і праваслаўным сьвятарамі быў асьвечаны шасьціканцовы крыж. Прагучалі малітвы па-старaславянску і на лаціне. Рэлігійную частку скончылі гімнам «Магутны Божа».

На крыжы — вянок з калючага дроту і надпіс: Беларусь і Летува.

Падрыхтоўка да гэтай падзеі пачалася ўжо даўно, з працаў Анатоля Якаўлевіча Разумава, бібліёграфа публічнай бібліятэкі, які шукаў, зьбіраў, стараўся данесьці да людзей імёны забітых у Левашове. Частку гэтых сьпісаў ўжо друкавалі беларускія газэты. Пазьней узьнікла ідэя аб памятным знаку ахвярам сталінізму.

Цырымонія прайшла пад знакам еднасьці. Побач схіліліся дзяржаўныя сьцягі Беларусі, Летувы і Расеі. Гучалі прамовы на беларускай, летувіскай, расейскай мовах. Побач стаялі сьвятары розных канфэсій і людзі розных лёсаў. Мы зрабілі яшчэ адзін крок да нармальных, чалавечых адносінаў.

У мяне ўвесь час перад вачыма стаіць маленькая дошка, прымацаваная да сасны, дзе пад імем пакутніка выбілі страсны заклік: «Боже, покарай палачей!»

**Д. ЖУКОЎСКІ,**
**Санкт-Пецярбург.**

# ЖЫХАРЫ МАСТОЎ ХОДЗЯЦЬ ПЕШШУ І ЧЫТАЮЦЬ РАЁННУЮ ГАЗЭТУ...

Яшчэ зусім нядаўна аўтобусы ў райцэнтрах Гарадзеншчыны амаль не псавалі паветра выхлапамі, бо зрабіліся вялікай рэдкасьцю. Першымі ультыматыўна спынілі рух гарадзкога транспарту кіроўцы аўтапарку № 9 г. Масты, яны патрабавалі грошы. Наш карэспандэнт пабываў у Мастох.

— Паводле ўласных разлікаў,— апавядае начальнік плянавага аддзелу аўтапарка № 9 Т. Мурына,— на ўтрыманьне аўтагаспадаркі нам быў патрэбны 1 мільён 300 тысячаў рублёў рэспубліканскага бюджэту, на ВА «Гроднааблаўтатранс» выдзелілі 2 мільёны, зь якіх нам нібы засталося 110 тысяч рублёў. Аднак мы іх не атрымалі, бо сэсія райсавету вырашыла гэтыя грошы чамусьці перадаць рэдакцыі райгазэты «Зара над Нёмнам». Нашы кіроўцы даведаліся аб гэтым рашэньні зь перадачы раённага радыё. У выніку ў студзені-лютым адбыліся брыгадныя сходы, а цяпер на гарадзкіх маршрутах аўтобусы болей ня курсуюць».

«Ніякай забастоўкі ў нас ня было,— катэгарычна запярэчыў мне дырэктар аўтапарка № 9 Сямён Уладзіміравіч ЗАНОЗА,— усяго толькі вымушаны были спыніць рух аўтобусаў на гарадзкіх маршрутах. Было два сходы і канфэрэнцыя працоўнага калектыву. Вось адзін са зваротаў, зь якімі зьвярталіся вадзіцелі, якія абслугоўваюць гарадзкія маршруты Мастоў: «Мы, вадзіцелі гарадзкой брыгады, праслухаўшы інфармацыю сэсіі райсавета, глыбока абураны тым, што тую суму датацыі ў 110 тысяч рублёў, якая павінна была належыць нам, перадалі другой арганізацыі, хоць па разьліку нам патрабуецца 1355,7 тысяч рублёў. Гарадзкія перавозкі, нягледзечы на тое, што тарыфы за праезд павышаны ў 2,7 раз, толькі ў студзені г. года прынеслі калектыву аўтапарка 81 тысячу рублёў страт, бо цэны на паліва, за запчасткі і многае іншае павысіліся ў 8-10 разоў.

Затым 24 лютага прайшла канфэрэнцыя працоўнага калектыву, таксама з адзіным патрабаваньнем аб выдзяленьні датацыі. Цытую яе пастаноўчую частку: «Зьвярнуцца да прадстаўнікоў улад Мастоўскага раёна аб вырашэньні пытаньня з датацыяй гарадзкіх перавозак... устанавіўшы тэрміны вырашэння пытання да 10 сакавіка 1992 года». Адказу яны ні адкуль не атрымалі, хоць зьвярталіся і ў гарвыканкам, райвыканкам, вытворчае аб´яднанне «Гроднааблаўтатранс» і ў аблвыканкам.

«Спынілі рух аўтобусаў і тады... як кажуць, забегалі. Пачалі патрабаваць па тэлефоне лічбы па аўтапарку мясцовыя ўлады. Затым былі рэвізійныя праверкі эканамічнай дзейнасьци аўтагаспадаркі — працавалі падаткавая інспэкцыя, райфінаддзел. Ніякіх махінацый не было выяўлена. Зьбіўшы ўсе лічбы па перавозках, яны выйшлі на 800 тысяч рублёў. Але грошы так і не далі.

Зь 1 красавіка ў сувязі са шматразовым падаражаньнем бэнзіну і ў выніку таго, што раён быў поўнасьцю паралізаваны спыненьнем аўтаперавозак, прэзідыум райсавета сваім рашэньнем выдзяліў датацыю на прыгарадныя аўтаперавозкі — 214 тысяч рублёў на красавік. У далейшым лёс перавозак невядомы. З 25 красавіка падняты тарыфы на прыгарадных перавозках у 2,5 разы. Скасавана частка маршрутаў.

Чарговае павышэньне тарыфаў на праезд усяго толькі вынік росту цэн на паліва. Цана — асноўны элемент рынкавых адносін у грамадзтве, гэта сёньня засвоілі мы добра. Ці ж не так? Зьвернемся да аргумэнтаў: «вытворчае аб´яднаньне «Мастоўдрэў» за падвоз рабочых на работу плаціла аўтапарку за месяц 33 тысячы рублёў. З 1 красавіка г. г. плата узрасла ўдвая і тады гэнэральны дырэктар М. Н. Слік адмовіўся ад паслугі. Кожны дбайны гаспадар лічыць сёньня рубель.

Чым жа жыве сёньня аўтапарк?

Пакуль што адным днём і надзеяй на лепшае. Гарадзкія аўтобусы не курсуюць, з 16 лютага запусцілі маршрутныя таксі. Кошт разавай паездкі 5 рублёў... Нятанна.

Таму зразумелае рашэньне, якое прыняў выканкам Мастоўскага райсавета аб бясплатным праездзе на гарадзкіх лініях школьнікам, якія жывуць на вёсцы, а таксама інвалідам на маршрутных таксі. Бо больш ж няма на чым ездзіць.

Кіраўніцтва аўтапарка № 9, тым часам, ідзе на крайнасьці. Распрадае гарадзкія аўтобусы «ЛІАЗ-677» і збірае грошы на выплату (яшчэ за сакавік) зарплаты. Пацікавіўся і я, іх цаной: «За 150-200 тысяч рублёў аддадзім», такім быў адказ планавікоў. Зарплата вадзіцеля на гарадзкім аўтобусе пры адпрацоўцы 180 гадзін у лютым складала 2200 рублёў. Не малая. Нейкае выйсьце калектыву аўтапарка і мясцовым уладам шукаць трэба. Бо калі на аўтатранспарце (прыгарад і міжгароднія перавозкі) былі падняты тарыфы назіраецца значны адток пасажыраў на чыгунку.

З 8 красавіка служачых і ІТР перавялі на палову стаўкі. На сёньняшні дзень скарачэньне пагражае 30 чалавекам. Тыя вадзіцелі, хто працаваў на гарадзкіх маршрутах пераведзены на іншыя работы ў аўтапарку. У многіх водпуск, каля 70 чалавек знаходзіцца ў ім без утрыманьня заработнай платы.

За шэсьць гадоў кіраўніцтва аўтапаркам С. У. Заноза не адчуваў яшчэ гэткіх цяжкасьцей. Бо надзейнай была апёка з боку дзяржавы. Зараз уся надзея толькі на тое, што па суседству ў Зэльве пачнецца будаўніцтва ДРЭс. Можна будзе задзейнічаць грузавы аўтатранспарт...

Як чорт ладана аднак баіцца грузавы кіраўнік аўтапарку слова «забастоўка», інакш не было б у яго словах катэгарычнасьці. Але ж забастоўкі адрозьніваюцца толькі разнастайнасьцю формаў. Гэта быў і ёсьць адзін са сродкаў задавальненьня эканамічных патрабаванняў, каторы заключаецца ў арганізаваным, калектыўным спыненьні работы. Назавём рэчы сваімі імёнамі.

**Пятро ЖЭБРАК,**
**г. Масты, 29-30.04 1992 г.**

# ФОНД АХВЯРАЎ ФАШЫЗМУ

Першыя крокі сваёй дзейнасьці робіць вабласны фонд вязьняў нямецкіх лягераў 1941-1945 гадоў. Ён ставіць перад сабой мэту абараняць сацыяльныя правы тых, хто ў гады другой сусьветнай вайны стаў ахвярай фашызму. Ужо сабраны матэрыялы аб тых, нашых земляках, якія былі вязьнямі фашысцкіх канцлягераў, прымусова вывозіліся на працу ў Нямеччыну. Цяпер з дапамогай фонду многія з гэтых людзей атрымаюць права на пэўную матэрыяльную падтрымку.

Аддзяленьні гарадзенскага фонду створаны цяпер у вабласным цэнтры і Слоніме, падрыхтоўчая работа вядзецца ў іншых раёнах.

Адрас фонду: 230025, г. Гародня, абанэнтная скрынка, 86. Тут чакаюць інфармацыі ад тых былых вязьняў фашысцкіх лягераў, якія яшчэ не паведамілі аб сабе ў фонд.

**Я. ВАРАНКЕВІЧ.**

### З ПАДАРОЖНЫХ ЗАПІСАЎ

# Міністэрства абароны на беразе Сьвіслачы

1.

У сталіцы я бываю рэдка, бо вочы гарадзенца глядзяць на захад. Як немцу, усё што на ўсходзе, уяўляецца мне ледзьве не Сібірам. Аднак часам Менск наведаць варта.

Не цярплю савецкіх цягнікоў, наскрозь прасьмярдзелых фэнолам прыбіральняў. Іншая рэч аўтобус, але цяпер імі не наездзішся: квіток ад Гародні да Менску каштуе 150 рублёў (заўвага: цэны яшчэ узьняліся). Дзякуй богу, што існуе пакуль адносна танны дызэль. 18 рублёў да Баранавічаў, плюс яшчэ 12. Усяго, значыцца, у сталіцу — за 30 рублёў. У пяць разоў таньней, чымсьці аўтобусам. Вось такая мая бугалтэрыя.

Цягнік спыняецца побач кожнага слупа. Вагон паступова запаўняецца пасажырамі, але п 'яных сярод іх няма. Можа усе яны — каталікі? Бо ўчора было праваслаўнае сьвята. Не, штосьці зьмянілася ў абліччы чыгуначных пасажыраў апошнім часам. Раней карты, бутэлька, мацюкі былі абавязковай справай. Няма бальшавікоў, пастаяннага нагнятаньня псіхозу, іхняга ідэялагічнага дурману. І людзі зьмяняюцца. Як пісаў М. Зошчанка: п 'юць па-ранейшаму, але ўжо нейк інакш, ва ўсякім разе покатам на тратуарах не ляжаць.

2.

Ня чытаю ў аўтобусах і цягніках, марнаваньне часу. Хіба ў дызэлі, і тое толькі на прыпынках. У часе руху трэба назіраць навакольле або думаць, прыплюшчыўшы вочы. У мяне з сабой кніжка вядомага польскага празаіка Рышарда Капусьцінскага. Называецца «Ляпідарый», г. зн. мейсца (гарадзкі гайнік, замкавы дзядзінец або патыё — унутраны дворык у музэі), дзе сабраныя рэшткі скульптураў і малога дойлідства: гзымс, калёна, або нават папросту дзікі камень.

Неспадзявана для сабе пачынаю чытаць старонку па старонцы й не хачу спыняцца. Блізкі мне жанр: сумесь рэпартажу, эсэ, дзёньніка. Колькі трапных назіраньняў з нашага жыцьця ў «сацыялістычным лягеры»! «Энэргія масаў згашаецца ў змаганьні дзеля забесьпячэньня элемэнтарнага ўзроўню жыцьця. Кожны чалавек ёсьць патэнцыяльным злачынцай і заўжды можа быць засуджаны... Няма аніякіх сталых правілаў гульні, апроч правіла максімалізацыі ўлады». Усё робіцца дзеля стварэньня грамадзтва без памяці. Хлусьня нічым не караецца. Што гаварылася, абяцалася учора, не мае аніякага значэньня. Для хлусьні ўсе ўмовы, бо ейны аб 'ект — людзкая гушча — пазбаўлены памяці.

3.

Напаўувагі назіраю сваіх суседзяў і пачынаю ўсьведамляць, якая паміж намі прорва. Я усьведамляю сябе беларусам, думаю па-беларуску, мысьлю іншымі гістарычнымі, эстэтычнымі катэгорыямі. Мне даводзіцца штось сказаць і я чуюся немцам, які прывез сюды аднаўжытковыя шпрыцы або кансэрваваныя сасіскі. Прынамсі палякам, каторы мае тутака нейкі камэрцыйны інтэрас. Я — замежнік у сябе дома. Бо я не жадаю быць як усе, мясцовым, савецкім, які, у свой чарод, не жадае разьгінаць свой карак, чакаючы ўлюбёнага дубца: «А пры Андропаве быў парадак...» Атаварваньне талёнаў для іх сьвятая справа. «Як, ты зноў ня выкупіў гарэлку?!» Я і цукар да апошняга часу амаль не выкупляў. Бо не гарэлка і мыла патрэбны мне для ўсьведамленьня сябе чалавекам, а, прыкладам, той жа Бел-чырвона-белы сьцяг. Я ня дома ў доме, дзе дбаюць пра чысьціню рук, ня думаючы аб чысьціні душы, гонары і волі.

4.

А ў Менску йдзе дождж, упарты і дужы. Спускаюся каля чыгуначнае станцыі ў падзем 'е мэтро. Навіна: лямпачкі ў разменных аўтаматаў ня сьвецяць. Грошы мяняюць у акенцы, куды — даўгая чарга. Праезд цяпер каштуе 40 кап.

Спатыкаю сяброў, ідзем па першы сёньня кубак кавы. А дождж не спыняецца. Другі кубак будзе ў сябрыне аднога мастака, які чакае нас пад парасонам на ганку невялікай цеснай кавярні. Публіка — пераважна школьніцы ў таварыстве барадатых, майго веку мужчын. Вольны куточак застаўлены распнутымі мокрымі парасонамі. Мы ладкуемся каля піяніна.

За вокнамі па-ранейшаму ліе дождж. Нехта апавядае аб знаёмым, які наведаў амэрыканскіх беларусаў. Дзіўныя яны людзі. Бацька належаў да лягеру БЦР, а сын быў з бэнэраўскага. Пахаваны на розных могілках. Карацей: два беларусы — тры партыі. Яшчэ кур 'ёз. У Магілёўскай вобласьці раёнку пераназвалі ў «За новыя рубяжы», а на шыльдзе — Пагоня, толькі рыцар скоча не на захад, а на ўсход...

Мяне распытваюць, чаму гэта ў Гародні назвалі адну вуліцу «Яна Паўла Другога» і наогул пачалі польскія назвы вяртаць. Дзіўныя яны людзі, менчукі. Я тлумачу, што такая вуліца ёсьць ня ў Гародні, а ў Сапоцкіне, у мястэчку. Надпіс, дарэчы, на дзьвюх мовах: беларускай і польскай. А ўвогуле, чым гэтая новая горш за вул. Патрыса Лумумбы ў Слоніме? Што датычыць Гародні, ніякай паланізацыі ў назвах вуліц няма. У тапанімічнай камісіі беларусы, каталіцкія назовы яны ня лічаць польскімі. Вось што значыць чуткі...

5.

Мы калясім па горадзе, спыняемся каб выпіць кавы, двойчы ямо піццу. У Менску ўсе ядуць піццу. Дождж не ўтаймоўваецца. Кіраваць сталічнымі вуліцамі цяжка, асфальт паўсюдна ў выбоінах. Сябра жартуе: пакуль быў праспэкт Леніна, ехаць было гладка, а як стаў Скарынаўскім... Я дадаю: пакуль было ЦК, было каму дбаць, бо чорныя лімузіны лёталі па цэнтральным праспэкце, ажно сьвісьцела ўвушшу.

У Менску зьмены. Перад былым ЦК болей няма аграмадных бюстаў двох немцаў — клясыкаў рэвалюцыйнага вучэньня. А ў самім гмаху цяпер будзе Вярхоўны Савет («вельмі» беларускае слова!). У гаркаме партыі месьціцца Міністэрства замежных справаў, а ў акруговым штабе — Міністэрства абароны, якое мае нават свой друкавы ворган, газэту «Во славу Родины»!. Уяўляю сабе ворганам расейскага міністэрства абароны, прыкладам, газ. «Беларус на варце»...

Дождж мые Менск. Ці адмые?

6.

Вяртаюся цягніком, у вагоне, з замкнутай намёртва прыбіральняй.

Зноў задумваюся: мы размаўляем рознымі мовамі. Адна — утылітарная і пустая. Другая мае душу. Брахня ўсё пра тую клясавую адрознасьць. Існуе толькі розьніца ў культурным узроўні, які таксама штосьці значыць, толькі памножаным на нацыянальную сьвядомасьць. Беларуская мова — не адно крок убок, а крок увышыню.

У Койданаве будуюць мост цераз рэйкі, у Ваўкавыску таксама. Раней на гэта шкадавалі грошы. А ў Зэльве муруюць з цэглы прыбіральню. На ваўкавыскай станцыі сноўдае паравоз, эканомяць дызэльнае паліва. Беларусь будуецца, дбае аб эканоміі, пхнецца паволі ў будучыню, дзе яе чакаюць сорак гадоў блуканьняў па ягіпецкай пустэльні.

**Сяргей АСТРАВЕЦ.**

**Пастановай Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь ад 23 красавіка 1992 г. ухвалена канцэпцыя судова-прававой рэформы. Наш карэспандэнт па камэнтары зьвярнуўся да супрацоўніка абласнога суда І. А. Енка.**

# СУДОЎНІЦТВА:

## ад ВКЛ да Рэспублікі Беларусь

**— Чым тлумачыцца павышаная ўвага грамадзтва да праблемаў ажыцьцяўленьня правасудзьдзя?**

— Няма патрэбы рабіць глыбокі экскурс у гісторыю, каб канстатаваць, што, пачынаючы з часоў Вялікага Княства Літоўскага, Беларусь мела моцную судовую ўладу. Дастаткова нагадаць Статут ВКЛ 1588 году, юрыдычна дасканалы звод законаў феадальнага права, які дзейнічаў да 1840 году. Нават калі наша Бацькаўшчына была ў складзе Рэчы Паспалітай і царскай Расеі, і ў той час суд зьяўляўся аўтарытэтным дзяржаўным ворганам. Судовая сыстэма Расеі ў 60-ых гадах мінулага стагоддзя была рэфармавана такім чынам, што мы маем магчымасьць шмат чаго скарыстаць і зараз для сябе.

Увесь савецкі перыяд суд зьяўляўся прыдаткам сыстэмы і праваднікам партыйна-дзяржаўнай палітыкі.

Мы задумалі будаваць прававую дзяржаву, што немагчыма без стварэньня якасна новай прававой сыстэмы, і ў першую чаргу без зацьвярджэньня незалежнай судовай улады.

Таму беларускаму народу немалаважна ведаць, хто і якім чынам будзе абараняць яго правы і інтарэсы.

**— Скажыце, калі ласка, колькі слоў аб асноўных накірунках судова-прававой рэформы, якая агульная ацэнка яе канцэпцыі?**

— Канцэпцыя рэформы распрацавана пад кіраўніцтвам старшыні камісіі па заканадаўству ВС Рэспублікі Беларусь Д. П. Булахава. На мой погляд, распрацавана бездакорна, з улікам сусьветнага вопыту і асаблівасьцяў резьвіцьця рэспублікі. Паколькі існуючая прававая сыстэма ня здольна забясьпечыць належную абарону правоў грамадзян, дзейнасьць законаў, дастатковы ўзровень барацьбы са злачыннасьцю, неабходна рэфармаваць усе яе зьвеньні: судовую ўладу, ворганы юстыцыі, адвакатуру, ворганы ўнутраных справаў і дзяржаўнай бясьпекі.

У цэнтры рэформы стаіць суд, які павінен быць адзіным ворганам, надзелены законным правам канчаткова вырашаць усе спрэчкі ў грамадзтве. Не чыноўнік за зачыненымі дзьвярыма ў сваім габінэце будзе прымаць рашэньні па спрэчным пытаньні, а незалежны суд публічна, з удзелам зацікаўленай асобы.

**— Якія перашкоды паўстаюць на шляху рэформы?**

— Асноўнай перашкодай я б назваў застарэлае мысленьне, якое, на жаль, дамінуе ў большай часткі прадстаўнікоў дзяржаўнай улады, у тым ліку ў многіх маіх калегаў. Прызнаць сваю самастойнасьць — значыць узяць на сябе адказнасьць, але ня ўсім гэта выгодна, шмат хто звыкся зь іншым жыцьцём. І таму грамадзтва павінна кіравацца не ўласнымі групавымі інтарэсамі, а інтарэсамі звычайнага чалавека.

Крызіс улады, які зараз назіраецца і ў нас, абумоўлівае неэфэктыўнасьць судовай дзейнасьці. Калі зьвярнуцца ў любы з аддзелаў народнага суда, можна заўважыць, што людзі працуюць там амаль бесьперапынна. Але павінен дадаць, што сур 'ёзныя крымінальныя справы часта не трапляюць у поле зроку судоў, і, вядома, гэта не наша віна. У першую чаргу я маю на ўвазе буйныя крадзяжы дзяржаўнай маёмасьці, злоўжываньні кіраўнікоў розных узроўняў, крымінальны бізнэс і г. д. Або, да прыкладу, хабарніцтва пранікла амаль паўсюдна, а за мінулы год судамі рэспублікі разгледжана ўсяго некалькі дзесяткаў справаў. У нашым горадзе працуе мытня. Па ацэнках спецыялістаў яна ўяўляе сабой даволі карумпаваную ўстанову. Тым ня менш справаў у судах няма і кур 'ёзнасьць гэтага разумеюць усе, каму хоць аднойчы даводзілася перасякаць дзяржаўную мяжу.

Хачу засяродзіць увагу на самым балючым для нас, судзьдзяў, пытаньні — гэта дрэнныя ўмовы працы. Многія народныя суды вобласьці разьмешчаны ў прыстасаваных будынках, супрацоўнікі месьцяцца па некалькі чалавек у адным пакойчыку. І гэта тады, калі кожны з нас прымае рашэньне па канкрэтнай судовай справе. Мясцовыя ворганы выканаўчай улады здаецца ня хочуць разумець нашых праблемаў. У сёньняшняй сытуацыі мы вымушаны шукаць абароны сваіх сацыяльных правоў, такіх, як напрыклад, права на атрыманьне жылой плошчы. Ня лепш выглядае і матэрыяльнае забесьпячэньне судзьдзяў, хоць, думаю, усім добра зразумела, што бедны чалавек ня можа быць незалежным. На мой погляд, гэта абставіна ў многім абумоўлівае прысутнасьць у нашым асяродзьдзі карупцыі.

Такім чынам, як бачыце, перашкоды ёсць і ўся стваральная праца яшчэ наперадзе, але ўжо сёньня вельмі хочацца верыць, што сапраўдная судовая ўлада на Беларусі ўсталюецца.

**— І напасьледак. Ці магчыма правядзеньне рэформы пры наяўнасьці таго судзейскага корпуса, які быў сфарміраваны аддзеламі адміністратыўных ворганаў абкамаў КПБ?**

— Гэта, відаць, самае асноўнае пытаньне. Кадры абнаўляць неабходна. Усе мы прайшлі праз горніла партыйнай кузьні. І, вядома, цяжка мяняць чалавеку свой сьветапогляд, калі ён складаўся дзесяткамі гадоў, і пагэтаму пры падборы кадраў цяпер неабходна карыстацца не крытэрыямі, якія былі ў недалёкім мінулым (наяўнасьць партбілета, «чыстая» анкета), а крытэрыямі, якія выпрацоўваліся на працягу гісторыі чалавецтва. Думаю, што іншага шляху ў нас няма.

**Т. МІКШУТА.**



# ВЯЛІКІ КНЯЗЬ КАЗІМІР



Шлях яго ляжаў з Кракава праз Сандамір, Люблін. Нарэшце зьявілася мяжа ВКЛ і першы горад ужо на зямлі княства — Бельск — вітаў новаабранага вялікага князя літоўскага. Зь ледзь хаваным хваляваньнем Казімір углядваўся ў пагоркі, лясы, палі, што мільгацелі за вакном карэты. Адначасова няведамай і такой знаёмай здавалася яму гэтая краіна. Аб ёй ня раз маладому каралевічу апавядала яго маці — гальшанская князёўна Зоф 'я Андрэеўна, неаднойчы зьяўлялася настальгія па радзімаму краю і ў ягонага бацькі — польскага караля Уладзіслава Ягайлы.

Далей шлях Казіміра пралягаў праз Дубна, Новы Двор, Васілішкі, Радунь, Эйшышкі. Хутка ён быў ужо ў сталіцы Вільні. Не пасьпеў Казімір як сьлед асвойтацца ў новым для сябе горадзе, як надыйшоў час каранацыі. Каранацыя альбо абрад «паднясеньня» на вялікае княства па традыцыі адбыўся ў Катэдральным Саборы. Ва ўрачыстай абстаноўцы, пад воклік і здравіцы паноў і шляхты, на галаву Казіміра была ўскладзена карона яго продкаў — мітра Гэдыміна, а ў рукі дадзены меч і бэрла (скыпэтр), якія сымвалізавалі дзяржаўную незалежнасьць княства. З гэтага часу ён на ўсё жыццё зьвязаў свой лёс з Айчынай сваіх бацькоў, якую любіў моцна і самаахвярна.

Незайздросная спадчына дасталася 12-гадоваму яшчэ юнаку! У выніку крывавай грамадзянскай вайны 30-х гадоў краіна была спустошана, гарады і вёскі ляжалі ў руінах і попеле. Дзяржаўная скарбонка амаль спусьцела. Існавала рэальная пагроза дзяржаўнаму сувэрэнітэту і тэрытарыяльнай непадзельнасьці Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Польшча ўвесь час імкнулася падпарадкаваць сабе княства. І шлях да ажыцьцяўленьня гэтай мэты польская магнатэрыя на чале з З. Алесьніцкім, здавалася, абрала беспамылковы: узначаленьне вуніі з Княствам.

У часы Жыгімонта Кейстутавіча палякі амаль дасягнулі сваёй мэты. У Вільні шматлікія польскія сэнатары і паны адчувалі сябе як у Сваім родным Вавэлі. Паўсюдна прыніжалася годнасьць сапраўдных патрыётаў княства, шмат хто зь іх ахвяраваў жыцьцём, баронячы дзяржаўныя і нацыянальныя інтарэсы краю. Красамоўны факт: пад час абраду паднясеньня Жыгімонта Кейстутавіча на вялікакняскі трон пасьля замаху на Свідрыгайлу, вышэйшая асоба іншаземнай дзяржавы (кароль ЯГАЙЛА), хоць і быў роднаснага паходжаньня, усклаў на яго галаву мітру Гэдыміна, сымболь незалежнасьці і самастойнасьці ВКЛ. Тое, што з такой цяжкасьцю на працягу амаль двух стагоддзяў здабывалі Вітаўт і яго папярэднікі, іхнія нашчадкі амаль растрацілі ўсяго за некалькі год. І толькі абраньне вялікім князем Казіміра, незалежна ад Польшчы, абнадзеіла дзяржаўных мужоў краіны дый увогуле ўсіх шчырых патрыётаў краю. Але падстаў для радасьці ўсё ж такі было мала.

Адразу пасьля ўступленьня Казіміра на вялікакняскі пасад ускраінныя землі дзяржавы выявілі намер аддзяліцца і ўтварыць асобныя княствы. У сэпаратызме гэтых вабласьцей бачыліся палітычныя амбіцыі прайграўшых прэтэндэнтаў. Міхаіл Жыгімантавіч падбухторваў Жмудзь і Падляшша. Алелькавічы хацеліператварыць Кіеўскае намесьніцтва ў сваё асабістае валоданьне. Свідрыгайла, умацаваўшыся на Валыні, не прызнаваў над сабой ніякай вышэйшай улады.

Малады вялікі князь з дапамогай нешматлікай жменькі сваіх дарадцаў, сярод якіх вылучаўся мудрасьцю і адвагай земскі маршалак Ян Гаштольд, дзейнічаў на дзіва рашуча і своечасова. Ваеннай сілай, а найболей дыпламатычнымі сродкамі ён спачатку ізаляваў, а потым зьнішчыў гнёзды сэпаратызму ў краіне. Свідрыгайла, Аляксандр Алелькавіч, Юры Лінгвенавіч былі вымушаны прысягнуць новаму вялікаму князю. Толькі адзін Міхаіл Жыгімонтавіч працягваў барацьбу са сваім стрыечным братам, абапіраючыся ў першую чаргу на іншаземцаў: татараў, маскавітаў, мазаўшанскага князя Балеслава. Быўшы на свабодзе патэнцыяльны прэтэндэнт на вялікакняскую карону ўяўляў сабой значную небясьпеку для Казіміра. Ад Міхаіла Жыгімонтавіча цягнуліся ўсе ніці змоваў супраць вялікага князя літоўскага. Увогуле на працягу ўсяго часу кіраваньня Казімірам Ягелончыкам абедзьвюма дзяржавамі, па падліках выдатнага польскага гісторыка-храніста сярэднявечча Мацея Стрыйкоўскага, на яго жыцьцё было арганізавана 7 замахаў.

Польскі кароль, старэйшы брат Казіміра, Уладзіслаў не хацеў прызнаваць каранацыю новага вялікага князя літоўскага. Адносіны паміж дзьвюма дзяржавамі былі вельмі напружанымі. Недаспадобы быў палякам абвешчаны Казімірам шлях да дзяржаўнага сувэрэнітэту. Але ў 1444 годзе абставіны перамяніліся. У бітве пад Варнай, камандуючы ўгорскім войскам, быў забіты Уладзіслаў Ягелончык (ён тады яшчэ зьяўляўся і ўгорскім каралём). І польская магнатэрыя і шляхта вярнуліся да старой выпрабаванай палітыкі ў дачыненьні да ВКЛ.

На Серадзкім сойме 1445 года вялікі князь Казімір быў абраны польскімі панамі польскім каралём. Не адразу сам Казімір і паны-рада Вялікага Княства прынялі такую прапанову, выдатна разумеючы, што за падобным крокам палякаў хаваецца імкненьне падпарадкаваць, а потым зь цягам часу і пазбавіць незалежнасці Княства. Толькі ў 1447 годзе Казімір даў нарэшце згоду прыняць польскую карону, прысягнуўшы аднак пры гэтым панам Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і ўвогуле ўсяму грамадзтву краіны, у тым, што ён ніколі ня будзе пакідаць у бядзе Літву, заўжды дбаць пра яе дзяржаўныя інтарэсы.

Прыняцьце Казімірам польскай кароны не прывяло да зьнікненьня ці зьмякчэньня супярэчнасьцяў паміж ВКЛ і Польшчай. Польскі бок дамагаўся больш цеснай вуніі паміж дзьвюма краінамі, нават не хаваючы свайго жаданьня поўнасьцю далучыць княства да польскай Кароны. Ды і ўзьмежныя праблемы абвострылі адносіны паміж Княствам і Польшчай да такой небясьпечнай мяжы, што, здавалася, вось-вось выбухне вайна. Нават шэраг буйнешых магнатаў ВКЛ, такіх як Радзівілы, Гаштальды, Осызікі і г. д., адаслалі назад палякам свае чэрбы, прынятыя да іх у выніку Гарадзельскай вуніі 1413 года.

У гэтых абставінах Казіміру трэба было валодаць сапраўдным майстэрствам дыпламатыі і кампрамісаў. Відавочна, Казімір як вялікі князь літоўскі і як сапраўдны патрыёт краю бараніў як мог інтарэсы княства, але з другога боку, як польскі кароль ён быў проста вымушаны дбаць і пра Польшчу, хоць не адзіны раз ён уздымаў свой голас супраць вялікадзяржаўнай палітыкі гэтай дзяржавы ў дачыненьні ВКЛ. Хаця, бязумоўна, сымпатыі Казіміра ляжалі на баку Вялікага Княства, аднак яму прыходзілася выступаць у якасьці трэцейскага пасярэдніка ў адносінах дзьвюх дзяржаў. Не заўжды ў яго атрымлівалася гэтая роля. Неаднойчы польскія паны і магнаты абвінавачвалі яго ў тым, што ён клапоціцца пра дзяржаўныя інтарэсы Польшчы, больш спрыяе Літве.

Пасьля канчатковага далучэньня Валыні і Заходняга Падольля да ВКЛ, сярод польскай шляхты пачало распаўсюджвацца меркаваньне, што ў Польшчы няма болей караля і што ўвогуле Казімір ня варты каралеўскай кароны. І толькі ўпартае імкненьне падпарадкаваць свайму ўплыву суседнюю дзяржаву прымушалі Польшчу зьмірацца са знаходжаньнем Казіміра на польскім троне. У сваю чаргу радным панам і магнатам ВКЛ здавалася, што Казімір Ягелончык недастаткова абараняе іхнія інтарэсы. Дайшло нават да таго, што на Вальных соймах 1456 і 1461-гадоў, калі кароль і вялікі князь быў заняты вайной з Тэўтонскім Вордэнам, яго хацелі пазбавіць вялікакняскага пасада.

Як ніякі іншы вялікі князь, Казімір на працягу 52 гадоў кіраваў дзяржавай: 47 гадоў ён трымаў польскую карону. За больш чым паўстагоддзя, калі ён стаяў у стырна краіны, у жыцьці Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага адбыліся значныя зрухі і зьмены. Вобразна кажучы, гэта быў пераходны перыяд ад «эпохі гераічных справаў», калі асноўныя намаганьні былі засяроджаны на стварэньні і пашырэньні дзяржавы, абароне яе ад іншаземных заваёўнікаў, да «эпохі стваральнай працы», якая наступіла ў XIV стагоддзі і вызначалася культурным росквітам Вялікага Княства.

У Казіміраў час быў закладзены трывалы падмурак духоўнага і культурнага поступу і ўздыму ў наступным стагоддзі. Менавіта тады, у канцы XV ст., і пабачылі сьвет Боскі будучыя геніі нашага народу — Мікола Гусоўскі і Францішак Скарына. Істотна была ўдасканалена старабеларуская мова. Яна трывала замацавалася ў справаводстве дзяржавы, адыгрывала ролю мовы дыпляматычных зносін у рэгіёне.

У XV ст. фарміруюцца асноўныя фанетычныя, граматычныя і лексічныя асаблівасьці старабеларускай мовы. На падставе агульнай мовы дзяржавы склаліся розныя формы духоўнай культуры народа, і ў першую чаргу літаратуры. У яе вытокаў было летапісаньне, якое ў значнай ступені спрычынілася да гістарычнага мысьленьня нашых продкаў, спрыяла абуджэньню пачуцьця нацыянальнай самасьвядомасьці. У часы кіраваньня Казіміра зьявіліся «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх», «Летапіс Аўраамкі» і іншых. Пашырыліся культурныя сувязі Вялікага Княства з замежнымі, асабліва заходнеэўрапейскімі краінамі. Юнакі з ВКЛ вучыліся, набывалі веды ў вядомых і славутых унівэрсытэтах Эўропы: Кракаве і Празе, Бальньні і Падуі, Лейпцыгу і Фларэнцыі і г. д. Прычым Вялікае Княства Літоўскае ня толькі запазычвала культурныя дасягненьні Захаду, але і само спрыяла распаўсюджаньню кніжнасьці і асьветы, прыўносіла новыя струмені ў культурнае жыцьцё Эўропы. У 1480 годзе выхадзец з Княства Ян Ліцьвін (Джон Літа) заснаваў першую друкарню ў Лёндане.

На працягу ўсяе другой паловы XV ст. працягваўся працэс складвання беларускага этнасу (які ў тыя часы быў вядомы ў сьвеце пад назвай «ліцьвіны» і «русіны») з усімі толькі яму ўласьцівымі поўнымі, культурнымі, псыхалагічнымі асаблівасьцямі і рысамі.

За доўгія гады знаходжаньня на тронах дзьвюх дзяржаў Казімір паказаў сябе буйным рэфарматарам. Прыняўшы польскую карону, Казімір выдаў неўзабаве ў Вільні Прывілей для ВКЛ, які пабачыў сьвет 2 траўня 1447 года. Гэты прывілей упершыню ў краіне замацоўваў эканамічныя і палітычныя правы фэадалаў на зямлю і на суд над залежным насельніцтвам.

Паводле Судоўніка злачынца ня мог адкупіцца за здзяйсненьне злачынства і яго нельга было вызваліць ад кары. Судзейнік абавязаў усіх жыхароў Вялікага Княства Літоўскага трымаць у належным стане дарогі і масты. Артыкулы Прывілея 1447 года і Судоўніка 1468 года мелі сваім вынікам выданьне трох Статутаў Вялікага Княства Літоўскага 1529, 1566, 1588 гадоў.

Цярпімым быў Казімір Ягелончык і ў пытаньнях веры. Слынны беларускі гісторык-храніст XIX ст. Т. Нарбут сьцьвярджае, што Казімір напачатку быў нават хрышчаны ў праваслаў 'е і меў імя Андрэй (цяпер большасьць адмаўляе гэты факт прыняцьця ім праваслаў 'я, больш сьхіляючыся да меркаваньня, што ён атрымаў сваё другое імя ў сувязі з тым, што нарадзіўся на дзень сьв. Андрэя 30. XI.1427 года). Да пераезду ў Кракаў была праваслаўнай і яго маці княжна Зоф 'я Гальшанская. На самым пачатку свайго кіраваньня, у 1447 годзе ён фундаваў адразу шэсьць праваслаўных ільлінскіх цэркваў — у Бешанковічах, Віцебску, Крычаве, Магілёве, Воршы і Чэрыкаве — у памяць аб збавеньні яго жонкі Альжбэты, дачкі цэсара Свяшчэннай Рымскай імпэрыі Альбэрта Габсруга, ад нядуга ў дзень сьв. Ільлі. І 1443 годзе ён даў праваслаўным сьвятарам аднолькавыя правы з каталіцкімі.

У 1458 годзе была ўтворана незалежная ад Маскоўскай Кіеўская (Літоўская) праваслаўная мітрапалія. У далейшым мітрапаліты на Кіеўскую катэдру адбіраліся ў ВКЛ незалежна ад канстанцінопальскага патрыярха. У другой палове XV ст. быў фундаваны шэраг буйных праваслаўных манастыроў, у тым ліку і вядомы Жыровіцкі манастыр — сьвятыня ўсіх праваслаўных Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Праваслаўнай царкве ў ВКЛ былі дадзены шматлікія прывілеі, дараваньні, фундушы. Зямельныя ўладаньні, гэтак жа як і каталіцкай цэркваў, знаходзіліся пад пільнай апекай самога «гаспадара». Казімір цалкам падтрымліваў ідэю і дух флярэнтыйскай вуніі 1439 года, накіраванай на зблiжэньне і аб 'яднаньне дзьвюх гэтых канфэсій.

Актыўную палітыку праводзіў Казімір і на міжнароднай арэне. Галоўнай мэтай яго дыпляматыі было забесьпячэньне пакою і міру на межах ВКЛ і Польшчы. Гэтую задачу яму ўдалося ажыцьцявіць. У 1449 годзе Казімір заключыў спрыяльны для Вялікага княства Літоўскага мір з Маскоўскай дзяржавай, згодна якому княства захавала ўсе свае тэрытарыяльныя набыткі.

Ня меней актыўную дзейнасьць разьвіў Казімір Ягелончык і ў заходнім накірунку. Тут асноўным аб 'ектам яго пільнай увагі заставаўся Тэўтонскі Вордэн, істотна пасляблены ў выніку Грунвальдзкай (Дубровенскай) перамогі, але ўсё яшчэ небясьпечны для суседзяў. Распачаўшаяся ў 1454 годзе вайна Польшчы з Вордэнам (ВКЛ з-за супярэчнасьцяў з Каронай удзелу ў вайне ня брала) завяршылася падпісаньнем у кастрычніку 1466 года Тортуньскага пагадненьня, па якім Польшча набыла прыморскія гарады і тэўтоны прызналі сваю васальную залежнасьць ад Ягелонаў.

У канцы жыцьця Казіміра пакінула прадбачлівасьць. Той, які ўвесь напярэдадні час вымяраў кожны свой будучы крок, на гэты раз зрабіў недапушчальную памылку. У 1470 годзе перад пагрозай з боку Масквы Казімір пайшоў на хаўрус са слабеючай з кожным годам Залатой Ардой супраць набіраючай моцы Масковіі. Гэтае пагадненьне прывяло да разрыву адносін ВКЛ з крымскім ханам Мэнглі-Гірэем, які вёў барацьбу з загатаардычыцамі. З другога боку, Іван III выкарыстаў зручны момант, каб аформіць дзьвюхбаковую кааліцыю Масковіі і Крыма супраць ВКЛ. За дыпляматычныя пралікі караля вымушаны будуць расплочвацца ў наступным стагоддзі сваёй крывёй будучыя пакаленьні.

Паміраючы кароль і вялікі князь Казімір склаў тастамант, у якім ён завяшчаў карону вялікіх князёў літоўскіх — свайму сыну Аляксандру, а палякам раіў абраць каралём другога свайго сына — Яна-Альбрэхта. У жыцьці Вялікага Княства Літоўскага наступала новая пара. Няўмольна ўзьнікала пытаньне: якім чынам распарадзяцца Казіміравай спадчынай. Дзяржавы Ягелонаў стаялі перад цяжкімі выпрабаваньнямі. З розных бакоў пагражалі ім шматлікія ворагі. Ад адказу на гэтае пытанне непасрэдна залежалі далейшыя лёсы ВКЛ і ўвогуле Ягелонскай дынастыі.

**Уладзімір КАНАНОВІЧ,**
**Клецак — Менск.**

